


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 7(653)**
**Ліпень 2020 г.**


## Мітынг каля ААН супраць лукашызму

У нядзелю 21 чэрвеня на пляцоўцы перад штаб-кватэрай ААН у Ральф-Банч-парку сабраліся прадстаўнікі беларускай грамады Нью-Ёрку і ваколіцаў, каб выказаць свой пратэст супраць фальшаваньняў і брутальных мэтадаў рэжыму Лукашэнкі падчас бягучага пэрыяду падрыхтоўкі да прэзыдэнцкіх выбараў 9 жніўня 2020 году.

Як вядома, сёлета грамадзкасьць на Бацькаўшчыне выказала беспрэцэндэнтную актыўнасьць у зборы подпісаў за альтэрнатыўных кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта. Амаль невядомыя датуль багатыр-кіраўнік філіі расейскага банку, безкаляровы непрыкметны функцыянэр рэжыму, званы "стваральнікам парку высокіх тэхналёгіяў", ды імпульсіўны блёгер выклікалі ў грамадстве нечуваны энтузіязм, якога не было раней у падтрымку нацыянальных, патрыятычных кандыдатаў.

Усе цяперашнія кандыдаты маюць вельмі цьмяныя і невыразныя перадвыбарчыя праграмы, робяць глыбокія рэвэрансы ўбок Расеі, і для нацыянальна настаўленых грамадзянаў усе яны цалкам непрыймальныя. Але гэтыя прэтэндэнты знайшлі водавочную падтрымку ў шырокіх колах дзесяцігодзьдзямі дэнацыяналізуемага беларускага грамадзтва. І Лукашэнка адчуў праз гэта пагрозу свайму непадзельнаму 26-гадоваму валадараньню. Пачаліся фальсыфікацыі й правакацыі. У блёгера раптам зрабіліператрус, знайшлі – якое супадзеньне – каля мільёну грошай гатоўкай. У багатыра-банкіра, пасьля дзясяткаў год праверак ды інспэкцыяў, раптам знайшліся "крымінальныя" хібы ў справаводстве. Напэўна, нешта знойдзецца і на "бацьку тэхна-парку", калі ён не падстаўная пешка Лукашэнкі.

У кожным разе, незалежна ад якасьці кандыдатаў, дзеяньні рэжыму выклікаюць абурэньне і пратэст. Воля народу, які заявіў пра жаданьне зьменаў, была патаптаная хваляй рэпрэсіяў. Заявы пра ўсяго толькі 3% падтрымкі за Лукашэнку выклікалі гістэрыку рэжыму. Фірма нацыянальнай сымболікі "Symbal.by" зазнала перасьлед за выпуск саколак з надпісам "ПСІХОЗ%". Людзей, якія выходзілі пратэставаць, забіралі аўтазакі, а прэвентыўна арыштаваных вядомых апазыцыянэраў, кшталту Паўла Севярынца ды Міколы Статкевіча, пасадзілі на катаваньне ў карцэры.

Нажаль, сытуацыя ў Беларусі ніколі не была прадметам увагі амэрыканскіх урадавых колаў. І цяпер, у часы каронавірусу і лявацкіх пагромаў, гэта яшчэ менш актуальна. Тым ня менш кожны крок у падтрымку дэмакратыі й свабоды ў Беларусі – крок у правільным кірунку. І таму беларусы, пераважна моладзь, выйшлі з плякатамі й сьцягамі да ААН, каб выказаць пратэст супраць шматгадовай дыктатуры, супраць жудасьцяў лукашызму. Моладзь распавядала, чаму яны сабраліся і пратэстуюць. Выгукалі лёзунгі: "Спыніць рэпрэсіі", "Жыве Беларусь!" "Верым, можам, пераможам!" Актыўнасьць моладзі выклікае спадзеў на зьмену сытуацыі на Бацькаўшчыне. Будзем спадзявацца, што гэта будуць зьмены да лепшага.

***Віталь ЗАЙКА***



# Непрыяцелі на беларускім полі

*(Ліст да сяброў КХП – БНФ)*



Нядаўна паслухаў каардынатара выбарчага штабу В. Бабарыкі. Карыснае відовішча, якое шмат што праясьняе. Мы ня бачым асяродзьдзя гэтага прэтэндэнта. Тут, відаць, усё больш злавесна, чым здавалася на першы погляд.

Глупствы, якія пастаянна прамаўляе Бабарыка, гэта хутчэй тэхналёгія заблытваньня апалітычнага электарату: то ён тры дзяржаўныя мовы ў Беларусі ўвядзе, то рэфэрэндум па вяртаньньні Канстытуцыі-94 (дзе ў прынцыпе рэфэрэндуму ня можа быць). Бздуры, вядома, але затое Бабарыка ўвесь час у цэнтры размоваў. Заварушылася ўся расейская агентура і прапаганда і несьціхана шумяць. Арганізавалі іх грунтоўна, сродкі ёсьць, Газпрам за плячыма.

Зьяўленьне Бабарыкі на паверхні супадае зь дзейнасьцю ў Беларусі спэцпрадстаўніка Бабіча (гэта што датычна арганізацыі). Група Бабарыкі па зборы подпісаў у дзесяць тысяч асобаў таксама не магла ўзьнікнуць імгненна на энтузіязме за невядомую не публічную асобу.

### Тэхналёгія “рэфэрэндум”

І цяпер больш сур’ёзна. Тэхналёгіі і мэтады дзейнасьці Масквы мне добра вядомыя і за 30 гадоў змаганьня з маскоўскай палітыкай дасканала вывучаныя. Подступы да розных рэфэрэндумаў у Беларусі Масква рабіла шмат разоў праз псэўдаапазыцыю, Лукашэнку і агентуру. Ім удаўся адзін – у 1995 годзе, які фактычна ўгробіў нашую нацыю. Цяпер мы добра ведаем гэты маскоўскі прыём. (Тое, як маскоўцы рабілі “рэфэрэндумы” ў іншых краінах, тут не камэнтуем.)

Цяпер з ідэяй рэфэрэндума пра нібыта вяртаньне Канстытуцыі 1994 году выступіў Бабарыка (на справе Канстытуцыя-94 вяртаецца аўтаматычна пасьля зьмены ўлады і адмены вынікаў лістападаўскага дзяржаўнага перавароту 1996 г. і антыпраўнай канстытуцыі дыктатуры. Ніякі рэфэрэндум тут не стасуецца).

Пасьля 9-га жніўня, кажа Бабарыка, Беларусь, правёўшы рэфэрэндум, уступіць у новае жыцьцё. Прытым Бабарыку яшчэ нават не зарэгістравалі кандыдытам на выбары. Зразумела, што ў сувязі з крымінальнай справай, яму давялося пасьпяшацца і ўжо цяпер аб’явіць пра заранёў прыдуманы для яго плян.

Расейска-гэбоўскія авантуры з рэфэрэндумамі робяцца па адной схеме. Галоўнае аб’явіць рэфэрэндум (пажадана з агульнай фармулёўкай). Потым пытаньні ўдакладняюць, дадаюць, папраўляюць, працуе прапаганда, тэлебачаньне і агентура. Урэшце, галасы фальсыфікуюць (гэта норма апэрацыі). І ў выніку – акупацыя, альбо захоп маёмасьці, альбо адмаўленьне ад нацыянальнай валюты, альбо адмаўленьне ад сувэрэнітэту робіцца “дабраахвотна”, рукамі народа, “гістарычэскім выбором”.

Гэта пра агульныя мэтады. Што канкрэтна. З блытанага тлумачэньня Бабарыкі вынікае, што Масква, скарыстаўшы момант, хоча памяняць Канстытуцыю 1994 году пад свае расейскія інтарэсы і закансэрваваць іх рэфэрэндумам. Канстытуцыя 1994 году, нягледзячы на ўстаўку пра прэзыдэнцкую выканаўчую ўладу, створаная ў нацыянальных беларускіх інтарэсах. Гэта беларускі дзяржаватворны закон. Менавіта таму пасьля лістападаўскага антыканстытуцыйнага перавароту 1996 году гэты закон быў зьнішчаны і антыпраўным спосабам заменены на канстытуцыю дыктатуры. Цяпер Масква, баючыся, што Канстытуцыя-94 будзе вернутая, хоча праз сваіх залежных папсаваць гэтую Канстытуцыю, падступіўшыся зь іншага боку.

### Выбары ў дыктатуру

Тут паўтару да месца важнае палажэньне. Цяпер у Беларусі няма прэзыдэнцкай сыстэмы ўлады. Парадак, які існуе і замацаваны ў канстытуцыі дыктатуры, – гэта сыстэма татальнага самаўладзьдзя, пры якой народ адлучаны ад грамадзянскага і заканадаўчага ўплыву на ўладу.

Асобы, якія ўдзельнічаюць у фальшывых выбарах прэзыдэнта ў якасьці кандыдатаў, ня кажуць аб ліквідацыі квазіпрэзыдэнцкай дыктатарскай сыстэмы, не прапануюць парляманцкай дэмакратычнай улады. Гэтыя людзі, не задумваючыся, выбіраюцца ў дыктатуру. Яны рыхтуюцца стаць на месца Лукашэнкі, замест таго, каб ліквідаваць гэтае “месца”. Так ёсьць і так было ўвесь час ўсе гэтыя 26 гадоў дзікай антыбеларускай пагромшчыны. Ніхто з гэтых кандыдатаў на прэзыдэнта, што ўдзельнічалі ў фальшывых выбарах, ня быў і ня ёсьць беларускім нацыянальным палітыкам, і ніхто рэальна ня думаў пра Беларусь і пра народ, але толькі пра ўладу, нават не разумеючы, што ў гэтых умовах яна для іх недасяжная.

### Назіраньні па сэнсу

Бабарыка агучыў чарнавую руцінную нарыхтоўку Масквы пра рэфэрэндум. Тут жа імгненна ў той жа дзень абвешчана пра стварэньне групы па збору подпісаў за рэфэрэндум у колькасьці сямі з паловай тысячаў асобаў. Праца кіпіць. Усё даўно падрыхтавана, усё разгортваецца, як на пляцы, як на парадзе.

І цяпер простыя меркаваньні. Рэфэрэндум, згодна з рэжымным законам, прызначае альбо дае дазвол на ягонае правядзеньне Лукашэнка. Ажыцьцяўляе і фіксуе працэс – Ярмошына.

Значыцца, рэальна такі рэфэрэндум можа адбыцца толькі тады, калі замест Лукашэнкі будзе Бабарыка.

Але вернемся ў рэальнасьць. Пры наяўнасьці фальсыфікацыйнай сыстэмы галасаваньня выбары 9-га жніўня (прытым абавязкова і пры любых умовах) будуць аб’яўленыя ў карысьць Лукашэнкі. Гэта разумеюць у Маскве. Тым часам, каб ажыцьцявіць важную для Крамля афёру з рэфэрэндумам, якую ўжо яб’явілі, трэба, каб не было Лукашэнкі. Пытаньне: а што мусіць адбыцца, каб яго не было?

Гэтага, магчыма, і Бабарыка ня ведае, і Цапкала ня ведае, і Лукашэнка ня ведае. Ня буду апісваць магчымыя энэргічныя дзеяньні рэжыму, каб не падказваць, хай змагаюцца. Усё ўбачым. Ад іхнага змаганьня, на жаль, найгорш беларусам.

Масква (як заўсёды ў сваёй манеры) ідзе тандэмам. Калі правальваецца Бабарыка і невядомым чынам адыходзіць Лукашэнка, справу “барацьбы” за акупацыйную дэмакратыю павінен падхапіць Цапкала (дарэчы, вядуць яго ціхенька і прафэсійна).

*заканчэньне на наступнай бачыне*

*заканчэньне з папярэдняй бачыны*

**Крымінальная залежнасьць у палітыцы**

Крымінальныя дзеяньні Белгазпрамбанка знаходзяцца пад наглядам сьледчых ворганаў Беларусі з 2018 году, калі выявілася афёра ў адмываньні грошай латвійскага банка ABLV (аб чым было папярэджаньне Падразьдзяленьня Мінфіна ЗША па барацьбе зь фінансавымі злачынствамі). Высьветлілася, што ніткі той афёры вялі ў Беларусь.

Выкарыстаньне крыміналу ў палітыцы – прывычная мэтодыка рэжымаў у Маскве і ў Менску. Так зьявіўся на палітычным фоне банкір Бабарыка.

(Некалі, у канцы 90-х, падобную афёру пракруцілі ў Беларусі з карумпаваным банкірам і прэм'ерам М. Чыгіром, якога таксама зрабілі "апазыцыянэрам". З той афёры, аднак, нічога путнага не атрамалася. Дывэрсія правалілася.

Я тады заранёў папярэджваў у друку пра апэрацыю "Чыгір", што вельмі ўспалашыла гэб'ё і агентуру ў сродках масавай інфармацыі.)

**Вольная Беларусь наперадзе**

Бяда цяпер для беларусаў у тым, што на беларускім полі гуляюць адны непрыяцелі. Беларускія палітыкі альбо ў турме, альбо ў эміграцыі, альбо ў магіле. Сродкі масавай інфармацыі ў руках непрыяцеля. Грамадзтва дызарыентаванае, бо зьнішчаныя нацыянальна-дэмакратычныя арганізацыі, няма ні лідэраў, ні нацыянальна арганізаванай сілы.

Але беларусы яшчэ не прайгралі, наадварот – набіраюць сілы. Усё будзе. Трымаймася Беларусі і адзін аднаго. Шануйма нашу беларускую мову, нашыя нацыянальныя сымбалі і сьвятыні, наш народ і свабоду.

Цяпер ёсьць шанец заваліць рэжым, калі не галасаваць, калі не пайсьці на фальшывае галасаваньне і пракантраляваць непрыход людзей на ўчасткі. Тады, маючы відавочныя доказы, што галасаваньне не адбылося, можна на падставе закона патрабаваць новых выбараў, у якіх ужо ня змогуць удзельнічаць Лукашэнка і маскоўскі тандэм.

Трэба разумець, што рэжым не пагодзіцца з паразай, будзе хлусіць і пагражаць. Але рэальна праўны чыньнік у змаганьні будзе на нашым баку.

Гэта вельмі істотная пазыцыя, калі закон будзе на нашым баку. Тут ўпэўненасьць ў сабе і адкрытая падтрымка міжнароднай супольнасьці, што б ні вытвараў антынародны рэжым. Усё вырашыць змаганьне і сіла грамадзтва, якой мусіць быць шмат.

Калі ж бы ўсе пайшлі галасаваць і прагаласавалі, і калі б у выніку гэтага рэжым аб'явіў пра "элегантную перамогу", то, нягледзячы на ўсе парушэньні, закон фармальна аказваўся б на баку рэжыма. Выбары адбыліся. (Праверыць татальны фальсыфікат і патрабаваць новых выбараў будзе немагчыма).

Пратэсты будуць кваліфікаваныя як парушэньне закону і пярэчыць гэтаму у юрыдычным пляне будзе цяжка. Права на разгром і ініцыятыва апынецца ў руках рэжыму. Тут тонкасьці, якія трэба ўлічваць і якія трэба ствараць у пратэстнай палітыцы.

Байкот галасаваньня ў выпадку посьпеху – гэта добрая грамадзкая плятформа для барацьбы, якая не спрыяе праваацыям і грубаму ўплыву Масквы.

Лёзунгі: Не фальшывым выбарам! Ня йдзем галасаваць! Не галасуем на выбарах дыктатуры! За новыя выбары без Лукашэнкі! Ніякіх фальшывых рэфэрэндумаў! Прэч маскоўскіх стаўленьнікаў!

Няхай жыве Вольная Беларусь!

*22 чэрвеня 2020 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# "Чорнае вясельле" і эпідэмія грыпу ў 1918 годзе

Нядаўна газэта "Нью-Ёрк Таймс" зьмясьціла цікавы матэрыял пра вясельле, што адбылося 4 лістапада 1918 году на могілках Маўнт-Гэброн у Куїнсе, Нью-Ёрк. Малады з маладою, гэбраі з Усходняй Эўропы, пабраліся ў прысутнасьці рабіна Ўнгера, і аб'ява пра гэта была надрукаваная ў газэтах. Мэтаю такой неардынарнай цырымоніі было спыніць эпідэмію, што тады захапіла Нью-Ёрк, а таксама цэлы сьвет. Гэта была гішпанская інфлюэнца, або грып-"гішпанка". Ахвярамі той папярэдняй пандэміі сталі дзясяткі мільёнаў людзей па сьвеце, і памяць пра тую сьмертаносную пандэмію, відавочна, сфармавала шмат у чым экстрэмальную рэакцыю на цяперашнюю пандэмію карона-вірусу.

У фальклёры і традыцыях усходнеэўрапэйскіх (у іх ліку і беларускіх) гэбраяў быў адзін незвычайны мэтад спыніць пошасьць, эпідэмію – правесьці цырымонію вясельля на могілках, пад чорнай "хупой" (ды шварцэ хупэ), або вясельным балдахінам. Хупа – кавалак тканіны (звычайна белага колеру) на чатырох жэрдках, што сваякі трымалі над жаніхом і нявестай падчас вясельнага абраду ў прысутнасьці сьвятара (рабіна). Лічылася, што такі абрад чорнай хупы ёсьць скрайнім, апошнім спосабам прыцягненьня Божае ўвагі да пакутаў жыхароў дадзенага мястэчка ці асобнай мясцовасьці. Па традыцыі, душы пахаваных на могілках далучаюцца да сьведкаў у вясельнай цырымоніі і пасьля ходаюцца перад Усявышнім за маладых, за іхнае здароўе, здароўе сваякоў, суседзяў, землякоў.

Абіраліся для цырымоніі самыя незаможныя маладыя, часта сіроты, галеча. Звычайна кагал (гэбрайская грамада) быў абавязаны за згоду на такі абрад дапамагчы маладым з хатай і набыцьцём пасагу. Па сьведчаньнях гісторыкаў, чорную хупу падымалі таксама яшчэ ў 1920-я гады ва Ўкраіне падчас эмпідэміяў тыфу і халеры.



*"Загорваньне" халеры ў ваколіцах Екацерынаслава, Украіна Мастак Уладзіміраў І. А.*

Цікава, што ў беларусаў ды іншых славянскіх народаў таксама быў спосаб абараніць вёску ці мястэчка ад пошасьцяў – жанчыны запрагаліся ў плуг ці саху і праворвалі баразну вакол паселішча, каб абараніць жыхароў ад пошасьці, мору. Гісторыя замоўчвае вынікі тых старадаўніх спробаў ратаваньня ад пошасьцяў, але "чорная хупа" на могілках у Куїнсе ў 1918 годзе дала-ткі вынік ці прынамсі супала з пачаткам зьмяншэньня колькасьці захворваньняў на грып у Нью-Ёрку.

***Віталь ЗАЙКА***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Небясьпечны вірус пашыраецца

Пра Black Lives Matter у Амэрыцы пісаць ня хочацца, бо я пішу пра гэта ўжо некалькі гадоў. Хто зразумеў, то й добра, хто не – той ужо не зразумее. Цікавей паглядзець, як розныя трэнды прарываюцца ў Беларусь. У кантэксьце прэзыдэнцкай гонкі і змаганьня, якое там разгарнулася апошнім часам, усё часьцей заўважаецца вось такога тыпу сымболіка.




Я спытаўся ў аўтаркі выявы, у чым аналёгія. Ці не ў тым, што беларусы крышаць прыватную маёмасьць і крадуць красоўкі з тэлевізарамі. Ні ў якім разе – адказалі мне – у руках жа кветачкі...

Відавочна, што амэрыканскі кантэкст тут абсалютна незнаёмы і незразумелы. Зрэшты, як і некаторым беларускім дэманстрантам у Амэрыцы. Аналёгія іх не турбуе. Як і пазыцыяваньне сябе ў якасьці прыгнечанага афрыканскага племені. Яны бачаць толькі прыгнятальніка – калена паліцэйскага і ахвяру – галаву мясцовых “індзейцаў”. Усё гэта засьціць вочы на бачаньне сябе складовай часткай пэўнай культурна-гістарычнай цывілізацыі, у якой прыватная маёмасьць – гэта непарушная сьвятыня, у якой паліткарэктнасьць – ганьба, а не прычына для гонару. Бо нашая цывілізацыя абапіраецца на разуменьні праўды ў прачытаньні грэцкіх філязофаў, а ў іхняй антыцывілізацыі праўда не існуе. У нашай цывілізацыі разуменьне закону і законнасьці выводзіцца яшчэ з вопыту Рымскай імпэрыі, а ў іх да закону толькі пагарда. Беларусы не разумеюць амэрыканскі кантэкст і не разумеюць, што адбываецца ў сьвеце. Не разумеюць мэханізмаў глябальнай бальшавіцкай рэвалюцыі. Яны нашмат далей за чэхаў, якія надрукавалі часапіс з вокладкай, на якой пад надпісам “Black Live Matter” выяўлены чорны Гітлер з афрафрызурай. Чэхі, якія разумеюць сваю прыналежнасьць да пэўнай цывілізацыі, бачаць, што новы рух – гэта новы фашызм. Фашызм які, пад выглядам барацьбы за правы выбранай групы, зрынае помнікі, якія ўводзілі нашыя дзяды. Чаго толькі варты апаганены помнік Сэрвантэсу, аднаму зь літаратурных бацькоў нашай цывілізацыі, які сам некалькі гадоў правёў нявольнікам у афрыканскай нявolі. Барацьба ідзе не за ідэі, а за зьнішчэньне адной выбранай цывілізацыі. За ёю, раней ці пазьней, пойдзе вайна на фізычнае вынішчэньне – генацыд. Не здзіўлюся, калі з часам амэрыканцы пачнуць уцякаць ад анархіі ў іншыя часткі Амэрыкі, кучкавацца ў больш-менш свабодных штатах на поўначы і захадзе краіны, або нават зьяжджаць з краіны, як гэта адбываецца ў Паўднёвай Афрыцы.

Пра гэта беларусы, канешне, ня ведаюць. У іх сваё маленькае змаганьне за выжываньне. І ў гэтым сваім маленькім змаганьні розныя хітрыя палітрукі ім увесь час навязваюць чужую і варожую для саміх беларусаў сымболіку: маечкі з забойцам Чэгеварам, песенькі гішпанскіх камуністаў і аватарачкі – Belarusians Lives Matter (ды яшчэ з граматычнымі памылкамі). Вірус сярод нас. І ён раптоўна пашыраецца. І гэта зусім ня той вірус, пра які вы толькі што падумалі.

**Віталь ВОРАНАЎ**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”** ***Viktar Yedzinovich.***

*Паважаныя* ***Ю. Акуліч, К. Буяр і Я. Новікава,*** *калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Абвестка

Штомесячныя сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

Сачыце за абвесткамі на старонцы "Пагоні" ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/?ref=group_header"***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**
**П. Сікорскі ................30**
**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich****.*